# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 45 (558) ГОД XI БЕЛАСТОК, 6 ЛІСТАПАДА 1966 г. ЦАНА 60 ГР.


У НУМАРЫ





Н. Купрэянаў. Крэйсер «Аўрора». Гравюра на дрэве.

# РЭХА З-НАД НЯВЫ

Кожнага дня а 12-й гадзіне ў поўдзень устрэсвае Ленінградам грукат выстралаў з бастыёна Петрапаўлаўскай крэпасці. Над спакойнымі хвалямі Нявы доўга перакочваецца яго рэха.

І так ужо ёсць шмат гадоў, а традыцыя стрэлу абвяшчаючага зеніт дня ўзялася, мабыць, з таго часу, калі з гарматы крэйсера «Аўрора» быў аддаяы сляпым снарадам выстрал, які быў сігналам рэвалюцыйным сілам да пачатку штурму на Зімні Палац — 7 лістапада 1917 года.

Карабель — помнік, сёння плаваючы філіял Цэнтральнага ваенна-марскога музея, стаіць на якары за мастом Свабоды.

У памяшканнях — дакументы і памяткі ўспамінаў усіх яго незабыўных хвілін. Крэпасць, з бастыёнаў якой штодзённа разлягаецца грукат гарматніх выстралаў, якая знаходзіцца на адным са шматлікіх неўскіх астравоў, на якіх злакалізавана 250 год таму горад Пятра — была таксама пабудавана Пятром Першым.

Пазнейшыя ўладары дабудоўвалі ўсё больш элементаў, а адным з найбольш цікавых, захапляючым да сёння з'яўляецца сабор, дзе змяшчаюцца магілы цароў Расіі. У мармуровых грабніцах адноўленых у 1956 годзе ляжаць: Пётр Вялікі, Кацярына II-ая, а таксама Канстанцін, намеснік Каралеўства Кангрэсовага. Спачываюць тут таксама разарваныя бомбаю астанкі цара Аляксандра II-га, які загінуў ад рукі тэрарыста, выхадца Бельшчыны, Ігната Грынявецкага.

На высокай 120-метравай вежы сабора — выспеўваюць ад звыш двух стагоддзяў час — галандскія куранты. З гэтай вышыні глядзяць яны на бастыёны і крэпасць, з падзямелля якой не ўцёк ніводзін вязень. З вокнаў камер петрапаўлаўскіх казематаў праз краты можна было ўбачыць толькі боты вартавых. Ля ботаў вязня, які ішоў на допыт, цягнулася 9 кілаграмаў кайданоў. Калі тут былі ў зняволенні Чарнышэўскі і Крапоткін — у камерах гарэла газавае святло. Максім Горкі меў ужо тут электрычнае святло, бо перад гэтым зрабіла самазабойства праз падпал народнік — тэрарыст Вера Вятрова.

29 гадоў прасядзеў у адной з камер народнік Марозаў, адсюль вышаў на смерць Аляксандр Ульянаў — брат Уладзіміра Леніна. У сцены казематаў крэпасці ўпіваўся хрыплы кашаль хворага Людвіка Варынскага. Восем тысяч членаў ваеннага экіпажа крэпасці пільнавала вязняў замкнутых у 70-ці камерах і тых восем тысяч у 1917 годзе ў лістападзе, пасля выстралу з «Аўроры», перайшло на бок рэвалюцыі, замыкаючы як апошніх вязняў у гісторыі панурых падзямелляў міністраў Часовага ўрада Керэнскага.

Шматлікія экскурсіі як з Савецкага Саюза так і з-за мяжы збіраюцца галоўным чынам ля магілы Пятра Вялікага. Побач сцягі пераможных рускіх войск з турэцкіх і шведскіх войнаў, якія вяла Расія ў XVIII стагоддзі.

У Ленінградзе можна сустрэцца са шматлікімі памяткамі па гэтым уладары. У агромных залах Эрмітажа — даўней Зімовага Палаца, знаходзіцца царскае сядло з бітвы пад Палтаваю. Дзвесце пяцьдзесят сем гадоў таму ў 1709 годзе малады амбітны кароль Швецыі Караль XII перамерваў са сваімі вайскамі ваеннымі шляхамі ўсю Еўропу. Перамагаў арміі і звяргаў троны. Пад Нарваю прымусіў пакінуць поле бітвы Пятровае войска. Рэванш за Нарву прышоў на ўкраінскіх палях Палтавы. Пётр у часе сваіх войнаў, якія вёў са шведамі, амаль не сыходзіў з каня. У сядле акрамя спецыяльных выгадных стрэмяў і высокай спінкі, якія дазвалялі неаднойчы драмаць у час маршаў — ёсць і месца на пісталеты, белую зброю, месца на люльку — не абы-якой велічыні рэч у тыя часы — буклак з віном, неабходныя запасы салдацкіх харчоў і месца на корм для коней.

(Працяг на стар. 6)

РАЗМОВА АБ БЕЛАРУСКАЙ І СУПОЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ

**Якая яна?**
**Дзе яе крыніца?**
**Дзе маё месца ў ёй?**

**Інтэрв'ю з ЯНАМ ЧАПЛЯ — старшынёй Камісіі Культуры ВРН, віцэ-старшынёй Ваяводскай камісіі ЗСЛь у Беластоку.**

# ШУКАЛЬНІКІ КУЛЬТУРЫ

**— Якая павінна быць наша культура: роўная, непадзельная, ці ўласная, лакальная, рэгіянальная? Вёсак усё ж у нашым ваяводстве больш.**

— Не можам гаварыць аб вясковай культуры, народнай у вузкім сэнсе. Можам гаварыць аб культуры агульнанацыянальнай. Народная культура ўваходзіць у склад культуры агульнанацыянальнай.

**— На Кангрэсе культуры гаварылася аб тым, што культура інтэгруе людзей.**

— У ніякім выпадку не можаш трактаваць культуру вузка і толькі са свайго панадворка.

**— Але ў нас паяўляюцца імкненні на рэгіяналізмы: гэта ваша, а гэта наша.**

— Калі гаварыць пра нашу беластоцкую культуру, то ў нас ёсць свая спецыфіка. Мы дасягненняў народнай культуры саромiцца не можам.

**— То народнасць — наша спецыфіка?**

— Гэта спецыфіка раёну. Тут памяшаліся ўплывы культуры польскай і беларускай, літоўскай і нават рускай і татарскай. І ўсё гэта стварае спецыфіку нашага раёну. З тым, што дзяліць у нас культуру на: беларускую, польскую, ці якую іншую, нельга. Яна адна — наша беластоцкая культура, у якую непадзельна ўваходзяць беларускія дываны, маты, кошыкі, гаршкі, беларусаў дасягненні ў мінулым і ў нашы дні.

**— Але наша культура — гэта не толькі дасягненні народнай культуры, але і яе сучасныя формы?**

— Як найбольш я за гэтыя формы: за радыё, тэлебачанне, кіно, тэатр. Асабліва тэатр.

**— Чаму?**

— Бо тэатр асабліва люблю. І з назіранняў сцвярджаю, што вёска тэатр любіць. Трэба толькі туды даехаць. А выезды тэатру не частыя. Зрэшты і адпаведніх сцэн няма ў тэрэне.

**— Ці не варта б падумаць тады аб імправізацыі, якая была б магчыма нават без сцэны.**

— Не, я за добрую п'есу, і тут імправізацыя не паможа.

(Працяг на стар. 4)



Тэлеграма

## ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

*Некалькі тысяч злотых узнагарод.*

*Паведамляем усіх: у наступным нумары падамо інфармацыю аб цікавым конкурсе на чытальніцтва кніжкі на роднай мове.*

*Чытай ужо ў наступным нумары аб Вялікім чытальніцкім конкурсе.*

З ЖЫЦЦЯ БГКТ

## Літаратурны семінар і пасяджэнне навуковага гуртка

**23 кастрычніка г. г. у памяшканні ГП БГКТ адбыўся чарговы семінар членаў Літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа». На ім адбылося абмеркаванне творчасці членаў аб'яднання за апошнія гады (ацэнку зрабіў Мікола Гайдук), а таксама праведзена ўступную дыскусію адносна выдання новага літаратурнага альманаха. Між іншым пастаноўлена, што ў новы альманах павінны ўвайсці творы нідзе дагэтуль не публікаваныя. Такія творы трэба дасылаць у ГП БГКТ. Дзень раней група членаў аб'яднання наведала вёскі Бaброўнікі, Вейкі, Коматаўцы і Скрабнякі (Беластоцкі павет), у якіх адбыліся аўтарскія сустрэчы членаў аб'яднання з насельніцтвам гэтых вёсак.**

*

**23 кастрычніка г. г. у памяшканні ГП БГКТ адбылося пасяджэнне навуковага гуртка, на якім абмеркавана працы дра Аляксандра Баршчэўскага «Рамантызм у творчасці Якуба Коласа» і мгра Уладзіміра Паўлючука — «Грыбоўская секта». Гэтыя працы атрымалі станоўчую ацэнку і рэкамендаваны да друку.**
**(рл)**

# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### СПЕКТАКЛЬ У МАНІЛЕ

У Маніле закончылася канферэнцыя, у якой прыймалі ўдзел ЗША, Аўстрыя, Новая Зеландыя, Філіпіны, Таіланд і марыянеткавыя правіцелі Паўднёвага В'етнама і Паўднёвай Карэі. Аб яе мэтах мы інфармавалі ў папярэднім нумары. Зараз ужо вядомы дакументы і змест перагавораў. Усё тут адбывалася, як у спектаклі. ЗША імкнуліся паказаць свету, што тое, што дзеецца ў В'етнаме, гэта справа сямі зацікаўленых дзяржаў. Камюніке аб манільскай канферэнцыі сцвярджае, што ўдзельнікі канферэнцыі хочуць прынясці в'етнамскаму народу «сапраўдную» волю, што хочуць увогуле міру і мірнага разглядання балючых спраў і... што **будуць у далейшым прадаўжаць вайну ў В'етнаме.** Першыя дзве справы — гэта толькі дэкларацыі, апошняя — гэта наяўны факт, і гэта ў далейшым будуць працягваць ЗША. Упершыню, на манільскай канферэнцыі, ЗША акрэслілі тэрмін, калі будуць магчы пакінуць В'етнам. Усё гэта можа адбыцца ў 6 месяцаў пасля вывядзення патрыятычных сіл на поўнач. Інакш гаворачы, гэта абазначае, што тыя, хто ўзяўся змагацца за тое, каб стаць гаспадаром сваёй краіны, павінны пакінуць свае дамы, вёскі, палі, і толькі тады пасля 6 месяцаў ЗША зробяць ласку і адыдуць з В'етнама.

Што гэта манеўр амерыканскай палітыкі, сцвярджаюць многія каментатары, пішучыя аб манільскай канферэнцыі. А прэзідэнт Францыі дэ Голь на адбыўшайся прэс-канферэнцыі яшчэ раз падкрэсліў, што іншага выхаду, як мірныя перагаворы ў в'етнамскай вайне няма.

### СВАБОДУ ЗІМБАБВЕ

Чацвёрты Камітэт Генеральнай Асамблеі ААН прыняў афра-азіяцкі праект рэзалюцыі па пытанню аб Паўднёвай Радэзіі. Сцвярджаецца тут, што «перагаворы аб перагаворах» паміж урадам Англіі і незаконным расісцкім рэжымам Сміта ставяць пад пагрозу правы афрыканскага народа Зімбабве. Рэзалюцыя асуджае любое магчымае пагадненне паміж кіруючай дзяржавай і незаконным расісцкім рэжымам меншасці, якое не будзе прызнаваць неад'емных правоў народа Зімбабве на самавызначэнне і незалежнасць.

### ВЫБАРЫ Ў ЗША

8 лістапада г.г. адбудуцца ў ЗША выбары ў Кангрэс і заканадаўчыя сходы штатаў. На выбарах будуць перавыбраны ўсе 435 членаў палаты прадстаўнікоў, 35 са 100 сенатараў і губернатары 35 штатаў з 50.

### «МАСКВІЧ» У ФРАНЦЫІ

У мінулым тыдні ў Парыжы падпісаны кантракт на пастаўку ў Францыю савецкіх легкавых машын «Масквіч» і пагадненне аб арганізацыі тэхнічнага абслугоўвання гэтых аўтамашын.

А.К.

## БССР

### ЯК АРГАНІЗАВАЛАСЯ РЭСПУБЛІКА

У сувязі з 50-годдзем Сацыялістычнай Рэвалюцыі беларускі друк змяшчае шмат малавядомых дагэтуль матэрыялаў, якія праліваюць новае святло на справу стварэння Беларускай рэспублікі.

У сярэдзіне студзеня 1919 года, праз два тыдні пасля апавяшчэння Маніфеста аб стварэнні Беларускай Савецкай Рэспублікі, ЦК партыі прыняў рашэнне, якое змяніла напрамак нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва ў Беларусі. Як вядома, Беларуская рэспубліка ўтварылася ў рамках Заходняй вобласці. Цяпер было прызнана неабходным, каб у склад рэспублікі ўвайшлі не ўсе пяць губерань былой Заходняй вобласці, але толькі дзве: Гродзенская і Мінская. Астатнія тры губерні — Магілёўская, Віцебская і Смаленская — далучана да Расійскай рэспублікі. Рашэнне ЦК у гэтай справе было аднагалосным, значыць, адпавядала думцы Леніна, прысутнага на гэтым пасяджэнні ЦК.

Гэтыя змены тэрыторыі пасля апавяшчэння Маніфеста мелі той сэнс, каб у выпадку міжнароднай інтэрвенцыі, уступіць як найменш савецкай тэрыторыі. Трэба было лічыцца з тым, што міжнародны імперыялізм захоча дабіцца стварэння незалежнай беларускай буржуазнай дзяржавы...

Нядаўна створанае Цэнтральнае Бюро камуністаў Беларусі не згаджалася з рашэннем ЦК партыі. Гэтае Бюро ўвесь час імкнулася да захавання Заходняй вобласці, замест Беларускай рэспублікі. Беларускаму нацыянальнаму моманту практычна не прыдавалася ніякага значэння. Цэнтральнае Бюро камуністаў Беларусі накіравала ў Маскву сваіх дэлегатаў П. Пікеля і І. Рэйнгальда. У іх гутарцы з Леніным палеміка вялася згодна з пазнейшымі заявамі гэтых дэлегатаў, якія падкрэслівалі: **«Мы абаранялі вобласць, а не нацыю».**

Гутарка ішла аб сэнсе стварэння Беларускай рэспублікі. **Ленін быў вялікім праціўнікам ліквідацыі беларускай дзяржаўнасці** і павароту да Заходняй вобласці. Сваю думку Ленін выказаў у катэгарычнай форме дэлегатам Цэнтральнага Бюро камуністаў Беларусі.

Паміж буржуазнымі дзяржавамі і Расійскай рэспублікай знаходзіліся нацыянальныя савецкія рэспублікі, і інтэрвенты перш за ўсё сутыкаліся з гэтымі рэспублікамі, а не з Расійскай рэспублікай. Такім чынам, гэтыя рэспублікі ігралі ролю палітычнага буфера. Інтэрвентам вельмі нязручна было крычаць аб уціску народаў «бальшавіцкай Расіяй». Прытым, існаванне гэтых рэспублік давала магчымасць для Расійскай рэспублікі весці не толькі актыўную ваенную дзейнасць, але і дыпламатычную барацьбу на міжнароднай арэне. Ленін пераконваў дэлегатаў, што трэба пачаць дыпламатычныя зносіны з Польшчай, каб паказаць свету, што вайна паміж Польшчай і Расіяй, гэта не грызня за беларускія землі, але замах польскай буржуазіі на незалежнасць беларускага народа. У нашы дні БССР з'яўляецца членам ААН.

**Сакрат Яновіч**

## ПОЛЬШЧА

### VII ПЛЕНУМ ЦК ПАРП

28 і 29 кастрычніка г.г. адбывалася ў Варшаве сёмае пленарнае пасяджэнне Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Склікана яно для абмяркоўкі асноўных задач адносна паляпшэння арганізацыі працы і кіравання прамысловымі прадпрыемствамі. Працу Пленума адкрыў I сакратар ЦК ПАРП, Уладзіслаў Гамулка, а з уступным дакладам выступіў намеснік члена Палітбюро, сакратар ЦК, Баляслаў Яшчук. Асноўны даклад Палітбюро адносна паляпшэння арганізацыі працы і кіравання прамысловымі прадпрыемствамі ўдзельнікі VII Пленума атрымалі заўчасна.

Апрача гэтага члены Цэнтральнага Камітэта заслухалі справаздачу аб пабыўцы партыйна-ўрадавай дэлегацыі ў Савецкім Саюзе і аб ходзе маскоўскай нарады прадстаўнікоў сацыялістычных краін

### У ГОНАР АБАРОНЦАЎ ІСПАНСКАЙ РЭСПУБЛІКІ

Мінае 30 год ад часу заснавання славутай польскай дывізіі імя Яраслава Дамброўскага, якая на шматлікіх фронтах і ў шматлікіх баях абараняла маладую Іспанскую Рэспубліку перад міжнародным загаварам фашыстаў. З гэтай нагоды адбылася ў кангрэсавай зале варшаўскага Палаца навукі і культуры ўрачыстае пасяджэнне, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі найвышэйшых партыйных і адміністрацыйных улад з прэм'ер-міністрам Юзэфам Цыранкевічам і міністрам абароны, маршалам Мар'янам Спыхальскім. З прамовай выступіў Ю. Цыранкевіч.

### ЦЯЖКАЯ ПРАМЫСЛОВАСЦЬ У 1967—68 ГАДАХ

За кожны рабочы дзень 1967 года цяжкая прамысловасць будзе даваць прадукцыю вартасцю 860 мільёнаў злотых. Спраўнасць гэтай галіны народнай гаспадаркі мае асноўны ўплыў на наш дабрабыт. У 1968 годзе вытворчасць цяжкай прамысловасці складзе амаль 40% у агульнай прадукцыі. На пачатку папярэдняй пяцігодкі — у 1961 годзе — цяжкая прамысловасць займала ўсяго ледзь 27,8% у агульнай прадукцыі нашай краіны.

### ПОМНІК СТЭФАНУ ЖЭРОМСКАМУ

У горадзе Ілава на Варміі і Мазурах са складчын мясцовага насельніцтва пабудаваны помнік славутаму польскаму пісьменніку Стэфану Жэромскаму. З Ілавай Жэромскі спалучыў свой лёс у 1920 годзе, калі заўзята змагаўся за аб'яднанне Варміі і Мазур з Польшчай.

### БАТАНІЧНЫ САД...

...у Варшаве займае плошчу 4 га. Расце ў ім звыш 5 тысяч розных відаў рэдкіх раслін з усяго свету. Штогод варшаўскі батанічны сад наведвае каля 120 тысяч асоб.

### ШЧЭЦІНСКАЯ СТАТЫСТЫКА

У Шчэціне жыве зараз 320 тысяч чалавек, а лік жыхароў Шчэцінскага ваяводства набліжаецца да аднаго мільёна.

## ВАЯВОДСТВА

### ДЗЕСЯТЫ ГОД

30 кастрычніка адбыўся V надзвычайны ваяводскі з'езд сельскагаспадарчых гурткоў. У Беласток прыехала амаль 150 дэлегатаў — прадстаўнікоў ад 55-ці тысяч членаў, аб'яднаных у 2276 гуртках, якія зараз дзейнічаюць у вёсках Беласточчыны. У V з'ездзе прынялі ўдзел прадстаўнікі сельскагаспадарчага аддзела ЦК ПАРП, Галоўнага Камітэта АСЛ і Міністэрства сельскай гаспадаркі. Улады Беластоцкага ваяводства прадстаўлялі: сакратар Ваяводскага Камітэта ПАРП Станіслаў Кудла і старшыня Прэзідыума ВРН Стэфан Жмійка. З дакладам аб дасягненнях ваяводскай арганізацыі сялянскага самаўпраўлення выступіў старшыня Ваяводскага праўлення Саюза сельскагаспадарчых гурткоў Юзэф Родзік.

V-ты надзвычайны ваяводскі з'езд сельскагаспадарчых гурткоў быў скліканы з нагоды 10-гадовай дзейнасці гэтай ужо масавай сялянскай арганізацыі. Таварыш Юзэф Родзік заявіў, што зараз сельскагаспадарчыя гурткі існуюць і дзейнічаюць ў кожнай другой вёсцы ваяводства. На перадавое месца вылучаюцца: Беластоцкі, Манецкі і Высокамазавецкі паветы. Гуртkоўскія машыны апрацоўваюць ужо да 30% плошчы ўсіх сялянскіх зямельных угоддзяў. Найчасцей сяляне выкарыстоўваюць машыны для ворыва, сяўбы, касьбы, у час жніва, капання бульбы і для аховы і хімічнай праполкі раслін. Гурткоўскія агрэгаты малоцяць ужо кожны другі снапок.

Наглядаецца зараз пацяшальная з'ява: гаспадары пачынаюць адносіцца да гурткоўскіх машын і прылад, як да сваіх, а праявы нядбайнасці сурова крытыкуюць.

І далей абавязвае канцэнтрацыя машына-трактарнага парку. Да канцэнтрацыі выдзелена 94 грамады на агульную іх колькасць 326. На працягу наступнага, 1967 года сельскагаспадарчыя гурткі пабудуюць у раёнах канцэнтрацыі 92 міжгурткоўскія базы. Вопыт паказаў, што машыны, згуртаваныя ў базах, былі болей дакладна выкарыстаны.

У многіх сельскагаспадарчых гуртках дзейнічаюць на аснове самастойнасці гурткі вясковых гаспадынь. Наладзілі яны 2.400 конкурсаў вырошчвання гародніны, заснавалі 554 суполкі для гадоўлі куранят, 23 тысячы гаспадынь скарыстала з рознага роду курсаў.

Не ўсё аднак добра дзеецца ў беластоцкай арганізацыі сельскагаспадарчых гурткоў. Замала яны яшчэ згуртоўваюць сялян. Гаспадароў на Беласточчыне звыш 180 тысяч, а ў гуртках усяго 55 тысяч. Займаем у гэтай галіне апошняе месца ў краіне. Гурткі не змаглі так наладзіць працу машын, каб урэшце нашыя сяляне забылі пра плахты і каробачкі падчас сяўбы. У 426 гуртках трактары працавалі менш як 600 гадзін, а трэба хаця тысячу, каб аплацілася трымаць трактар.

З'езд прыняў пастанову аб пабудове ў Беластоку «Дома селяніна», які служыў бы цэнтрам тэхнічна-сельскагаспадарчага навучання сялян, аграномаў і гурткоўскіх дзеячоў.

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

NIEDZIELA, 6.XI.66 r.

8.30 Politechnika TV: Geometria wykreślna — „Transformacje"; 9.05 Politechnika TV: Chemia: „Siarka i azot"; 9.35 33 lekcja jęz. ros.; 9,55 Politechnika TV: Matematyka „Pojęcie funkcji" cz. II; 10.25 Przerwa; 10.55 Program dnia; 11.00 Koncert utworów Aleksandra Borodina (Moskwa); 13.00 Wiad. dz. tv; 13.10 Program filmowy; 14.10 „Jedziemy na łów"; 14.25 PKF; 14.35 Teatrzyk dla przedszkolaków: „Dwa talerze i jeden półmisek"; 15.15 „Największe teatry operowe świata" — film; 16.00 „Przemiany"; 16.25 „Ludzie i zdarzenia" — „Łapy miasto kolejarzy"; 16.40 „Czterej pancerni i pies"; 17.25 „Sezam muzyczny"; 18.10 „Zalakowana koperta" — film fab. radz.; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Jalousie" („Listy śpiewające"). Wykonawcy: Z .Kucówna, R. Kossobudzka, W. Koczeska, Z. Merle, B. Wrzesińska, K. Sienkiewicz, K. Brusikiewicz, W. Gliński; 20.45 „Niedziela sportowa"; 21.15 „Nasze czasy". — film fab. wł.

PONIEDZIAŁEK, 7.XI.66 r.

7.45 „W 49 rocznicę Wielkiej Rewolucji Październikowej. Parada wojskowa (Moskwa); 11.30 Przerwa; 16.15 Program dnia; 16.20 Dla dzieci: „Przygody błękitnego rycerzyka" — film; 16.30 Dla młodych widzów: „Skarby w szufladzie"; 16.50 Wiad. dz. TV; 16.55 Uroczysty koncert z okazji 49 rocznicy Rewolucji Październikowej (transmisja z Sali Kongresowej PKiN w W-wie); 18.20 „Eureka"; 18.50 „Nowohuckie złoto"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.15 Kino Krótkich Filmów; 20.30 Teatr TV: „Jegor Bułyczow" M. Gorkiego; 21.55 „Rzeczpospolita tysiąca urwisów" — rep. film; 22.10 „Na półkach księgarskich"; 23.30 Dziennik TV.

WTOREK, 8.XI.66 r.

10.55 Dla szkół: (kl. X) Język polski. Aleksander Puszkin: „Eugeniusz Onegin" („Dzieje dramatu"); 11.30 „Ojciec żołnierza" — film fab. radz.; 13.00 Przerwa; 15.55 Program dnia; 16.00 Politechnika TV. Matematyka: „Funkcje i ich obrazy graficzne" cz. I; 16.30 Politechnika TV: Matematyka: „Funkcje i ich obrazy graficzne" cz. II; 17.00 Wiad. dz. tv; 17.05 Dla młodych widzów: „Zrób to sam"; 17.20 Dla młodych widzów: „Na tropie ciekawych pomysłów"; 17.45 Infarmator handlowy; 17.55 Kurs Rolniczy — „Produkcja sadzenia ziemniaków"; 18.25 „Szukamy przeboju" — program rozrywkowy; 18.50 „Na morskich szlakach"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Ojciec żołnierza" — film fab. radz.; 21.45 „Panorama kulturalna"; 22.15 Dz. TV; 22.30 Program na jutro; 22.35 Politechnika TV. Matematyka: „Funkcje i ich obrazy graficzne" cz. I; 23.05 Politechnika TV. Matematyka: „Funkcje i ich obrazy graficzne" cz. II.

ŚRODA, 9.XI.66 r.

10.00 „Osaczona" — film tv USA; 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Fizyka: „O sposobach przenoszenia ruchu"; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia: „Węgiel"; 12.25 Przerwa; 15.55 33 lekcja jęz. ros.; 16.15 Program dnia; 16.20 „Przypominamy, radzimy"; 16.30 P.K.F.; 16.40 „Tydzień uprzejmości" — film rozrywkowy; 16.55 Wiad. dz. tv; 17.00 Dla dzieci: „Filipku, uważaj"; 17.10 Dla młodych widzów: „Zwykłe sposoby — niezwykłe sekrety"; 17.35 „Nie tylko dla pań"; 17.55 Wszechnica TV: „Myśli różne o ogrodzie i sadzie"; 18.25 Francuskie melodie rozrywkowe; 18.55 „Sprawy do załatwienia"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Naddunajskie wieczory" — film jug.; 20.15 „Osaczona" — film tv USA; 21.05 „Światowid"; 21.35 „Encyklopedia baletu"; 22.05 „Kronika Kulturalna"; 22.25 Dz. TV.

CZWARTEK, 10.XI.66 r.

9.25 Dla szkół: (kl. V) „Historia starożytnej Grecji"; 9.55 Dla szkół: (kl. VI). Język polski: Bolesław Prus („Spotkania"); 10.25 Przerwa; 16.20 33 lekcja jęz. franc.; 16.40 Program dnia; 16.50 Wiad. dz. tv; 16.55 Dla dzieci: „Kino Ptyś"; 17.15 Dla młodych widzów: „Klub Pancernych"; 17.40 „Tramp"; 18.00 Wszechnica TV; 18.25 „Sonety miłosne" T. Bairda; 18.55 „Między polem a jadalnią"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. TV; 20.00 Występ artysty rumuńskiego Arty Florescu; 20.30 „Miecz Bagira" — film Tele-Aru; 20.45 Teatr „Kobra": „Samobójstwo doskonałe" — widowisko sensacyjne Jean Pierre Gonty; 21.45 „Refleksje"; 22.20 Dz. TV; 22.35 Program na jutro; 22.40 33 lekcja jęz. franc..

PIĄTEK, 11.XI.66 r.

0.55 Dla szkół (kl. VII) Zajęcia techniczne. „Sanki kierowane"; 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. licealne) Wiadomości o Polsce i świecie „Panorama"; 11.25 Przerwa; 12.00 Dla szkół: (kl. IV) „W starych zamkach obronnych"; 12.30 Przerwa; 16.25 34 lekcja jęz. ang.; 16.45 Program dnia; 16.55 Wiad. dz. tv; 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.15 Dla dzieci: „Patrol graniczny" („Bella i Sebastian") — film; 17.40 Dla młodych widzów: „Kwidzyniacy"; 18.00 Wszechnica TV — „Wieczory w Łazienkach"; 18.30 „Śpiewa Joanna Rawik"; 18.45 „Poligon"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dz. tel. 20.00 TV Kurier Mazowiecki; 20.15 Łódzki Teatr TV; „Eryk XIV" A. Striudberga; 21.25 „10 minut recenzji"; 21.35 Dz. TV; 21.50 Magazyn Medyczny; 22.20 Program na jutro; 22.25 34 lekcja jęz. ang.;

SOBOTA, 12.XI.66 r.

10.55 Dla szkół: (kl. VII) Biologia: „Jamochłony"; 11.25 „W środku nocy" — film fab. USA; 13.15 Przerwa; 16.10 Program dnia; 16.15 Program tygodnia; 16.35 Dla nauczycieli: „Trudne decyzje, czyli o wyborze zawodu" („Psycholog radzi"); 16.55 Wiad. dz tv; 17.05 Konkurs „5 milionów"; 18.05 „Miasto nad Maricą" — reportaż filmowy; 18.20 „Po szóstej" — Młodzieżowy Klub Telewizyjny; 19.00 „Wieczorne rozmowy"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 „Monitor"; 20.00 „Belphegor czyli upiór Luwru" — film; 20.25 „Pięć minut przed zimą" — program muzyczno-literacki; 21.10 Dz. TV; 21.25 Wiadomości sportowe; 21.35 „W środku nocy" — film fab. USA.

## Партрэты нашай вёскі



Буйка Мікалай з Новай Волі

Фота. Ул. Паўлючук

# ДУБ ЯГЕЛЫ ПАМІРАЕ

Па шолаху жоўтых ападаючых лістоў, ляснымі сцежкамі ідзем да Дуба Ягелы. Дуб стаіць, як стаяў 560 год таму, калі, паводле хронікі Длугоша і навуковых супастаўленняў з ёю, пад ім, тады на паляне, у 1409 годзе адпачываў Уладзіслаў Ягела. Паляваў і запасіў мяса, таксама зуброў, на вялікую вайну з крыжаносцамі.

Дуб стаіць, штопраўда, як стаяў, але маркотна робіцца табе на сэрцы. У яго — Дуба нутры вялікая выпарахнелая дзірка. Смерць заглядае ў вочы Дубу (дрэвы паміраюць стоячы).

Вучоныя спрачаліся: адны хацелі цэментаваць Дуб, каб жыў даўжэй, іншыя паклікаліся на натуральныя правы Пушчы (Дуб расце ў сціслым запаведніку, адкуль забараняецца выносіць нават лістка), дзе ўсё родзіцца і памірае само, калі прыдзе яго час.

Перамагла канцэпцыя другая. І сумна, але мо на другі год у гэты час магутны Дуб Ягелы ляжа, каб пасля 900 год бурлівага жыцця спакойна адпачыць.

(вл)

# 6% БАНІФІКАТЫ

Як не дзіўна, але большасць нашых сельскагаспадарчых гурткоў абаславілася тым, што не хоча папулярызаваць штучных угнаенняў. Каб дадаць ім запалу — ды ўлічваючы іх гаспадарчую спецыфіку — ГС-сы моцна нагаварваюць іх, каб узяліся і яны за продаж штучных угнаенняў, атрымоўваючы ўзамен дадатковы даход, інакш званы баніфікатаю ад продажу.

Каму 6% баніфікаты!?

Значыць, сельскагаспадарчыя гурткі ў нашых вёсках могуць зарабляць таксама і на гэтым інтарэсе. Прытым, ГС-сы цвёрда паабяцалі, што кожнаму гуртку, які толькі возьмецца за гэтакі гандаль, дадуць транспарт колькі трэба. ГС-сы цвердзяць, што цяпер маюць яны транспартных сродкаў па горла, няма з імі ніякай бяды.

Гуртку прывязуць штучныя ўгнаенні на месца, у вёску, толькі агітуй і прадавай іх. Ну, вядомая рэч, трэба падрыхтаваць месца пад склады для гэтых «гнаёў». Можна тут выкарыстаць старыя аборы былых спулдзельняў.

Продаж штучных угнаенняў на месцы быў бы добрай выгодай. Гаспадар не патрабаваў бы валачыцца да ГС-аўскага мястэчка за «гнаямі». (ся)

А. Баршчэўскі, Б. Швед

# Дружба і праца

## НОВЫЯ ХВАЛЯВАННІ

Нядаўна мне зноў давялося наведаць Народную Польшчу — трэці раз за тры апошнія гады.

Спачатку, едучы туды, я думаў, што новы мой падарожны нарыс назаву віdаць так: «У Польшчы без хвалявання». Бо многа гэтага хвалявання было адчута ў першую паездку і выказана на старонках маёй кніжкі «Вачыма друга», бо нельга двойчы аднолькава хвалявацца... У такім настроі я пераехаў Буг і ступіў з падножкі вагона на польскую зямлю.

А праз два тыдні, вяртаючыся дахаты, я ўжо лічыў, што той, загадзя падрыхтаваны загаловак — не падыходзіць. Хваляванні былі.

Адкрытыя, прыязныя ўсмешкі простых людзей, якія сустрэлі нашу дэлегацыю адразу за Бугам; залатая, спакойная восень абапал вузкай асфальтавай паласы; аратыя, што раскашаліся няспешнай пад сонейкам позняй восені; дзеці — школьнікі і малышы, якія на фоне багатай руні, на вуліцах вёсак і гарадоў гулліва махалі нам ручкамі і смяяліся, — ужо ўсё гэта было пачаткам той хвалюючай песні, якую нам давялося неўзабаве спяваць.

Дзень той быў незвычайны — 6 лістапада 1957 года. У «Кангрэсавай зале» Палаца культуры і навукі, разлічанай на тры з палавінай тысячы месцаў, варшавян сабралася значна больш: усе праходы былі забіты людзьмі. Калі мы, пасля здравіцы ў гонар лагера міру і сацыялізма, падхопленыя агульным парывам, усталі і тысячамі грудзей, на розных мовах узнялі нашу найдаражэйшую песню — «Інтэрнацыянал», радасна было адчуваць сябе кропляй у хвалях непераможнага прыбоя!.. Рэдка даводзіцца перажываць такое хваляванне, — адчуваць сябе і далёка ад родных прастораў, і адначасова дома, у хаце шчырых сяброў, шчасліва адчуваць сябе не толькі маленькай часцінай, але і давераным прадстаўніком вялікага савецкага народа!

Кланяюся Рэвалюцыі Рускай
Шапкай да зямлі
Па-польску,
Савецкай справе,
Народнай, людскай,
Рабочым, сялянам і войску...

Гэтыя словы выдатнага паэта рэвалюцыйнай Польшчы Уладзіслава Бранеўскага належаць да тых несмяротных, напоеных крывёй народнай мужнасці і сонцам народнага шчасця, слоў, чуючы якія нельга не хвалявацца. Я чытаў іх раней, я чуў іх, нібы зусім новыя, на тым самым урачыстым вечары, доўга насіў іх потым у душы...

Найбольш урачыстым момантам у польскім святкаванні 40-годдзя Вялікага Кастрычніка было ўскладненне вянкоў на магілы герояў рэвалюцыі і савецкіх салдат — вызваліцеляў Польшчы.

Ад усёй душы і па-польску кланялася ім працоўная Варшава. У поўнай, урачыстай цішыні чуваць быў толькі ціхі барабанны пошчак і шорганне мноства ног па цэментовых плітах і па буйным жвіры. Нерухома застыў зялёны строй ганаровай варты; гвардзейцаў слаўнай дывізіі імя Касцюшкі, — малодшыя браты і сыны тых, што на нашай беларускай зямлі, пад Леніна, пачыналі паход на Берлін. Каля падножжа строга-велічнага абеліска адзін за адным клаліся вянкі, безліч вянкоў, цёплыя, чыстыя кветкі якіх гаварылі пра пачуцці людзей. Адзін за адным, бясконцым патокам... А барабаны ціха б'юць, і іх старое, традыцыйнае вуркатанне цудоўна, хвалююча спалучаецца з выглядам светленькай дзяўчынкі і чапурыстага хлопчыка — польскіх школьнікаў, якія стаяць абапал абеліска, таксама на варце. Як сімвал новага светлага дня, акупленага крывёй герояў!

Шапка гэта, што ў паклоне, — не гетманка,
Над аколышкам няма пяра ад чаплі,
Шапка польская з астрога — катаржанка
З Шлісельбурга, Варынскага шапка.

У фабрычнай, рабочай Лодзі, на тэкстыльным камбінаце імя Дзяржынскага мы сустракаліся з рабочымі. І ў цэхах, каля нястомных, гаваркіх прадзільных і ткацкіх станкоў, і за бясёдным сталом, дзе ў мілым, шумным бязладдзі гучалі і польскія і нашы песні, радасна было яшчэ раз убачыць, што Рускай Рэвалюцыі — Вялікаму Кастрычніку польскія таварышы кланяюцца не толькі шапкай — катаржанкай часоў Шлісельбурга і Уладзіміркі. Душой нашай сустрэчы быў таварыш Юліян Кубяк, пажылы рабочы і палітвязень санацыйных турмаў, дзе ён сядзеў, дарэчы, разам з некаторымі вядомымі дзеячамі заходне-беларускага камуністычнага падполля.

— Мы вельмі добра памятаем сваіх прыгнятальнікаў, — гаварыў таварыш Кубяк. — Хто памятае даваенных, а хто яшчэ і дарэвалюцыйных. Мы добра ведаем, што і вам і нам даў Кастрычнік, і мы не саступім, таварышы, са шляху нашай з вамі рабочай, пралетарскай дружбы.

Ён не адзін такі — гэты рухавы, жыццерадасны ткач, што са шчырай усмешкай гасціннага гаспадара і даўняга, нягодамі праверанага друга вадзіў нас па ўсіх цэхах старога камбіната, з яўным і па-юнацку прыгожым жаданнем паказаць усё, пазнаёміць нас з усімі рабочымі, усім ім крыкнуць, заглушаючы гоман станкоў:

— Вас вітаюць сябры з Савецкага Саюза!

І там, на Лодзінскім камбінаце імя Дзяржынскага, і на Вроцлаўскім вагонабудаўнічым заводзе «Пафаваг», і на славутай Новай Гуце, і на заводзе легкавых аўтамашын у Варшаве — усюды, дзе мы сустракаліся са слаўным рабочым класам Польшчы, з яго гвардыяй — камуністамі яшчэ з даваеннага падполля, з часоў партызанскай барацьбы, і камуністамі маладымі, — усюды мы з радасным хваляваннем назіралі, што справе жыцця — непераможнай справе пралетарскай рэвалюцыі рабочая Польшча шчыра, да самай зямлі, па-польску кланяецца і шапкай-катаржанкай часоў Варынскага, і шапкай вязня Лукішак і Картуз-Бярозы, і салдацкай ды партызанскай пілоткай з дзён змагання з фашызмам.

*

У белым старасвецкім доміку, вакол якога ціха стаяць на варце сінія кіпарысы і цішэй, чым дзе-небудзь шастае пад нагамі лісце, у родным доміку Шапэна, дзе нехта руплівы і непрыкметны па-сямейнаму напаліў кафляныя белыя грубкі і паставіў у нішах свежыя букеты жоўтых хрызантэмаў, — у светлых, з нізкаю столяй пакоях гучыць чароўная музыка польскага генія. Гэта для нас, савецкіх сяброў, іграе прафесар Варшаўскай кансерваторыі Беражынскі, абаяльны чалавек, з маладым, натхнёным тварам.

І разам з намі заціхлі каля акон і дзвярэй і праезджы настаўнік, які не змог абмінуць Жэлязовай Волі, і дзяўчаты з бліжэйшай вёскі, і маладая пара з ціхімі светлавокімі хлапчанятамі...

Прыгожая, мудрая старасць з мікельанджэлаўскай барадою. Прафесар Казімір Віткевіч, друг і паплечнік маладога Фелікса Дзяржынскага, вядомы этнограф, мастак і бібліяфіл. З якой пашанай заходзім мы ўвечары ў яго рабочы кабінет, увешаны карцінамі, устаўлены рэдкімі кнігамі. З якой прыемнасцю пазнаём мы Кракаў — горад рэвалюцыйных традыцый, горад мастацтва і навукі — яшчэ з аднаго боку, з яшчэ адной яго цудоўнай асаблівасцю!..

Малады камуніст, вясёлы лодзінскі ткач — таварыш Ях. Мы не паспелі з ім нагаварыцца як след пра ўсё, а асабліва пра мастацкую літаратуру нашых народаў. І мы абмяняліся адрасамі... Разумныя, дапытлівыя твары студэнтаў філалагічнага аддзялення Варшаўскага ўніверсітэта. Якой цікавай і непасрэднай была гутарка з імі, як прыемна было адказваць на іхнія запіскі!..

Перад палотнамі Матэйкі, Хэлмоньскага і іншых стваральнікаў польскага класічнага мастацтва ціха гавораць, ціха ходзяць па бліскучым паркеце, а больш за ўсё — разам з намі моўчкі, захоплена глядзяць дзесяткі, сотні ўсё новых і новых людзей...

За рабочым сталом, над якім — на белай сцяне пад шклом — разумны і просты Горкі, сядзіць па-горкаўску просты і ўдумлівы, неяк вельмі папольску абаяльны і па-пралетарску цвёрды ў сваіх перакананнях чалавек, адзін з выдатнейшых пісьменнікаў Народнай Польшчы — Леон Кручкоўскі...

Дома радасна думаю пра тых шматлікіх польскіх сяброў, будаўнікоў новай, сацыялістычнай Польшчы, з якімі я або зноў сустракаўся, або пазнаёміўся ўпершыню.

Гэта рабочыя, пісьменнікі, мастакі, вучоныя, студэнцкая моладзь — людзі, з якімі мы гаварылі на адной, на агульнай мове, людзі, у руках якіх лёс іх культуры, лёс іх краіны.

Чэсць вашай працы, дарагія таварышы!

**Янка Брыль**

Урывак з нарысу «Яшчэ раз па шчырасці»

1. У якіх гарадах і мясцовасцях Польшчы пабываў беларускі пісьменнік?
2. Як аўтар нарыса характарызуе палякаў?
3. Што ведаеш аб жыцці і творчасці тых польскіх пісьменнікаў, аб якіх гаворыць Я. Брыль?
4. Ахарактарызуй літаратурны жанр «Нарыс».

**Звесткі з тэорыі літаратуры**

### НАРЫС

Нарыс спалучае асаблівасці мастацкай прозы з публіцыстыкай. Асновай нарыса з'яўляецца зачэрпнутыя з жыцця факты, а не выдумка аўтара. Нарыс можа датычыць разнародных падзей: пабудовы, жыцця школы, жыцця селяніна і г. д. У нарысе можа расказвацца аб адным чалавеку або аб групе людзей. Нарысы вельмі часта паяўляюцца на старонках «Нівы», дзе журналісты апісваюць розныя падзеі з жыцця беларусаў у Польшчы.

### БІЯГРАФІЧНЫ ДАВЕДНІК

Брыль Янка — беларускі празаік. Нарадзіўся ў 1917 годзе. У міжваенны перыяд жыў у Польшчы. Пасля вайны выдаў цэлы рад зборнікаў апавяданняў і раманаў: «Граніца», «У Забалоцці днее», «Гнёзды і птушкі». Амаль уся творчасць Брыля звязана з Заходняй Беларуссю. Пісьменнік некалькі разоў наведваў Польшчу. Вынікам яго падарожжаў па нашай краіне быў зборнік нарысаў «Вачыма друга».

### СЛОЎНІК

Інтэрнацыянал — міжнародны гімн працоўных.
Картуз-Бяроза — велізарная турма, арганізаваная санацыйнай уладай у Заходняй Беларусі і прызначаная для палітычных рэвалюцыйных дзеячоў.
Лукішкі — даваенная турма ў Вільні.



# ІХ ВУЧАЦЬ САВЕЦКІЯ АСЫ

*Як інфармаваў штодзённы друк, у СССР праходзяць падрыхтоўку лётчыкі Дэмакратычнай Рэспублікі В'етнам. Іх абучаюць вопытныя настаўнікі, слаўныя савецкія асы (многія з іх змагаліся з гітлераўскімі захопнікамі).*

*На здымках, якія мы змяшчаем за «Савецкім Саюзам», вы бачыце вучэбныя будні в'етнамскіх лётчыкаў і тэхнікаў. Уніза (злева) абломак амерыканскага самалёта «Ф-105», які прыслалі сваім выхаваўцам былыя курсанты.*

(Працяг са стар. 1)

# РЭХА З-НАД НЯВЫ.

Разбітыя ў 1709 годзе шведы хаця яшчэ будуць перамерваць з вайскамі Еўропу да 1721 года, закранаючы і аб паўночныя рэгіёны беластоцкай зямлі — не вернуцца ўжо на шляхі ваеннай славы. З пачаткам 19-га стагоддзя станцуца народам нейтральным — аж да сённяшняга дня любяць над усё мір, які прыносіць ім прыбытак. А ў Расіі ў сто гадоў пасля Палтавы пахіснецца імперыя Напалеона, а ў наступным стагоддзі на бяскрайніх раўнінах дзяржавы, у якой перамог лад грамадскай справядлівасці, будзе знішчана найбольш злачынная ў гісторыі чалавецтва гітлераўская ваенная машына.

Расія сённяшняга дня старанна даглядае даўнейшыя народныя традыцыі. Адны з петызмам, іншыя можа са слязінкаю ў воку, а іншыя дзеля аб'ектыўных гістарычных фактаў. У адной зале Эрмітажа 195 партрэтаў заслужаных афіцэраў з кампаніі 1812-га года. Стары — рашучы твар Кутузава, які вырысоўваецца з бяздоннаў агромнага генеральскага каўняра, і вострыя паўднёвыя рысы князя Баграціёна, героя напалеонскіх войнаў.

Ад 1837 года захаваўся партрэт паэта Лермантава, намаляваны Фядотавым, афіцэра, які разам з ім служыў на Каўказе. Як жа інакш выглядае паэт, чым на ўсіх рэтушаваных, крыху цукеркавых, робленых людзьмі яго класа — партрэтах. Тыповы малады задзіра, тагачасны афіцэр, твар, які акрэсліваем «рускім», поўныя губы, кірпаты нос. Так сапраўды выглядаў паэт.

Усялякія ёсць чалавечыя твары з усялякіх эпох, але часам вельмі да сябе падобныя. Колькі ж падабенства ў салдацкіх рысах постаці з сучаснай карціны «Васіль Цёркін» і салдатаў з агромных палотнаў Верашчагіна паказваючых барацьбу на руска-турэцкім фронце з 1877 года.

Сёння на вуліцах Масквы ці Ленінграда, на станцыях, якія мінае «Чырвоная страла», на трасе ад Бараневіч да Масквы, ці ад Львова да Кіева, аж па Урал можна ўбачыць сотні такіх твараў.

**Кшыштаф Вуйтовіч**

**УСЁ АБ ФІЛЬМЕ**

## Польскі фільм у свеце

**Польскі фільм пашырае свае граніцы ў свеце. Цікава, што лепш ідзе ён у капіталістычных краінах. Добра ў трэцім свеце.**

**На 63 фільмы прададзеныя ў I паўгоддзі 66 года, 51 пайшло на Захад і 8 у заморскія краіны. Зразумела, што за фільмы з капіталістычных краін атрымліваем цэнныя дэвізы.**

**Найбольш мастацкіх фільмаў купіла Заходняя Германія, потым Швейцарыя, Аўстрыя, маленькі Ліхтэнштэйн па 10, а таксама Інданезія — 10.**

**З сацыялістычных краін найбольш нашы фільмы падабаюцца Югаславіі — 8.**

**Інакш з кароткім метражам і фільмамі дакументальнымі. Яны ў свеце маюць вельмі высокую ацэнку. Іх мы прадалі 274 за паўгоддзе. Тут больш купляюць у нас сацыялістычныя краіны — Венгрыя — 54, Чэхаславакія — 38 і інш. Нашыя кароткаметражкі купляе нават Саўдаўская Аравія і Кувейт. (вл)**




**Калі ў лістападзе туман — узімку адлігі; цэпло позніе — позняя вясна, а ранні холад — цэпло не ў часе.**

**Калі лёд на рэчцы стане грудамі — будуць і ў хлебе груды.**

# ТАЯМНІЦЫ СТАНЦЫІ П-Т-ІКС

Й ГОРНУНГ

ТАЯМІЧЫ «КОРА»

Палкоўнік Бенцівены па загаду самога адмірала Канарыса настойваў на хутчэйшым заканчэнні ліквідацыйнай акцыі супраць савецкай разведвальнай арганізацыі, бо становішча на ўсходнім фронце рабілася крытычным.

Пасля заканчэння следства ў Брусэлі, якое, зрэшты, не дало спадзяваных вынікаў, бо не ўдалося выкрыць ніводнага з супрацоўнікаў «Кента», Модэль і Фаут вярнуліся ў Берлін. Фаут адразу прыступіў да ранейшай працы над расшыфроўкай радыёграм, высланых савецкімі перадатчыкамі, аднак праз некаторы час вымушан быў прызнаць сваё бяссілле. Савецкая разведка нечакана змяніла шыфр, і Фаут, нягледзячы на ўсе намаганні, не здолеў прачытаць ніводнай радыёграмы. Аднак тых, якія былі прачытаны даўней, было зусім дастаткова для таго, каб пачаць следства па справе «Кора». У радыёграмах савецкіх станцый, праўда, паўтараліся, апрача гэтага, псеўданімы «Петэрс», «Зауэр», «Іахім», «Ад'юнкт» і іншыя, але афіцэрам абвера і работнікам СД і гестапа ніколі не ўдалося ўстанавіць, хто за імі хаваўся.

Расследаваць справу «Кора» было даручана галоўнаму ведамству бяспекі рэйха. Оберштурмфюрэр Гопф з IV бюро вёў следства з тыповы нямецкай сістэматычнасцю, не спяшаючыся і не даючы сябе збіць з панталыку рознымі неабгрунтаванымі ідэямі сваіх супрацоўнікаў. На падставе матэрыялаў, перададзеных яму абверам, Гопф устанавіў, што «Кора» павінен займаць высокую пасаду ў нейкай вайсковай установе. Са зместу данясенняў вынікала, што гэтая ўстанова павінна была мець многа агульнага з ОКВ і Міністэрствам авіяцыі, а таксама з Камітэтам па справах стратэгічнай сыравіны і ваеннай эканомікі, які існаваў пры ОКВ з 1939 года. Супрацоўнікі гестапа, падначаленыя Гопфу, патаемна праводзілі ў гэтых установах заданне, каб даведацца, хто мог мець доступ да матэрыялаў такога зместу, які з'яўляецца дзяржаўнай таямніцай. Расследаванне цягнулася тры месяцы і ўрэшце — рэшт прынесла неспадзяваны поспех. Дакументы з тым зместам, пра які гаварылася ў радыёграмах, падпісаных псеўданімам «Кора», маглі знаходзіцца ў руках толькі невялікай колькасці людзей. Сцвердзіўшы гэты факт, Гопф загадаў даставіць яму падрабязныя анкеты на падазроных. Сярод іх апынуліся тры генералы, адзін палкоўнік, два маёры і адзін капітан. Прааналізаваўшы дастаўленыя яму матэрыялы, оберштурмбанфюрэр Гопф прагледзеў персанальныя картатэкі, дзе меліся дасье на кожнага паўналетняга грамадзяніна, і прыйшоў да вываду, што віноўным у выдачы дзяржаўных таямніц III Рэйха мог быць толькі капітан. Чалавек гэты некалі быў членам левай партыі, якая сімпатызавала камуністам. У яго асяроддзі ён быў таксама вядомы сваімі яўна левымі поглядамі і варожасцю да ідэалогіі нацыянал-сацыялісцкай партыі. Потым, пасля 1934 года, ён перастаў удзельнічаць у актыўным палітычным жыцці, і як нават можна было б меркаваць, паводле розных даносаў і канфідэнцыяльных матэрыялаў, пачаў нават прыхільна ставіцца да гітлераўскага руху. Ад-

# ТРЫБУНА чытачоў

## Весткі з трох поштаў

Пошта ў Палічнай (Гайнаўскі павет) абслугоўвае навакольныя вёскі: Войнаўку, Вярсток, Вілюкі, Горны Груд, Старыну, Белую Страж, Апаку, Курашава і другія. Кіруе ёю маладая дзяўчына Яўгенія Ігнацюк. Пошта дабілася поспехаў у сваёй працы. А перад усім у падпісцы на газеты і часопісы. І так, усіх тут падпісчыкаў 426.

Найбольш папулярнай сярод многіх часопісаў гэта «Ніва». Яе 67 экземпляраў — амаль усе квартальныя падпіскі. Многа газет выпісваюць сяляне ўсёй аколіцы на сельскагаспадарчыя тэмы. І так: «Грамады Рольнік Польскі» — 50 экз., «Газеты Беластоцкай» — 47 экз., «Нашай Всі» — 42 экз., «Ахрона раслін», «Аграхімія» і «Дзеннік Людовы» па 10 экземпляраў і г.д. Пісьманосец Мікалай Каравай мае штодзень нялёгкую пошту. Дагэтуль выязджаў з пасылкай сам, яго сябра па працы быў на лячэбным звальненні.

✲

Семяноўская пошта ў параўнанні з Палічнай мае больш чым у два разы падпісчыкаў на родны часопіс «Ніву», бо 152 і амаль усе квартальныя.

Папулярным тут часопісам з'яўляецца «Хлопска Дрога» — 71 нумараў, «Газета Беластоцкая» — 63 нумары, «Аграхімія — 15 нум., «Наша Весь» — 6 квартальных, «Грамада Рольнік Польскі» — 57 нумараў. Пісьманосец Аляксандр Стоцкі і Янка Шыманюк абслугоўваюць свой даволі разлеглы раён: Семяноўку, Луку, Тарнопаль, Пасекі, Заброды, Баб'ю Гару, Семякаўшчызну і другія вёскі. Кіраўніком працуе тутэйшая зямлячка, маладая дзяўчына Аляксандра Кіслая.

Мясцовыя жыхары кажуць, што кожны адыходзіць ад паштовага прылаўка з выразнай задаволенасцю.

Кіраўнічка кожнаму знойдзе ветлівае слова, хоць працы ў яе многа. Знойдзе час параіць, як лепш пераслаць пасылку, і ніколі не адкажа, калі трэба каму яе заадрасаваць, або ліст ці нейкі паштовы друк ці квітанцыю.

✲

— У Старым Ляўкове ўсе штатныя працаўнікі пошты працуюць больш чым па 5 год. З наймалодшых, скажам, з'яўляецца сам кіраўнік Міхал Смольскі, які на працягу некалькіх гадоў сваёй сумленнасцю і працавітасцю заваяваў сабе давер і пашану. Ляўкоўскі паштовы раён добра спраўляецца з прапагаваннем не толькі сельскагаспадарчай літаратуры. Зараз тут ёсць 417 экземпляраў падпіскі на такія часопісы, як «Зялёны Штандар», «Пчалярства», «Аграхімія», «Наша Весь», «Вейска гаспадыні». Падпісчыкаў на «Ніву» — 127, на «Газету Беластоцкую» — 62, «Грамада Рольнік Польскі» — 72.

У гэтым не малая заслуга пісьманосца Янкі Пякарскага і Кастуся Каліноўскага (працуе 9 год). Асабліва любяць іх школьнікі, якія з хваляваннем чакаюць, калі яны прыносяць пісьмы ад «Зоркі» ці новы экземпляр свежай «Нівы». Нашыя пісьманосцы — людзі адданыя працы, у іх вопыт і ўмелы падыход да кожнага вясковага жыхара. Укладаючы шмат намаганняў дзеля развіцця чытальніцтва краёвых і заграніцных часопісаў, Ляўкоўскі раён займае адно з перадавых месц у распаўсюджванні прэсы.

**Янка Цялушэцкі**



**Вуліца Падлесная ў Беластоку.**
Фота В. Касакоўскі

## Не будзе праклёнаў

Дарога Дубічы — Чэхі Арлянскія да нядаўна была вельмі дрэннай. Колькі на яе пачулася праклёнаў, дык гэтага не палічыш. Людзі лаялі яе як маглі, бо ўжо горшай дарогі на Гайнаўшчыне цяжка было знайсці. Аднак і на яе прыйшоў канец. Вясною пачаліся работы на гэтай дарозе. Паабапал яе ўжо выкапаны равы, навезена пяску, жвіру. На гэтай дарозе зусім інакш, тут робіцца рамонт. На верх дарогі кладзецца мокры бетон, а пасля засыпаецца пяском. Гэта першая проба з так званай стабілізацыі дарог на Гайнаўшчыне. Кіраўніком работ з'яўляецца наглядчык дарог Іван Майстровіч, дапамагае яму Косця Чыквін.

**Мікалай Панфілюк**

## Кусочак засталося

У 1963 годзе жыхары вёскі Гаркавічы (Сакольскі павет) грамадскім чынам пры дапамозе Прэзідыума Грамадскай рады нарадовай у Бабіках пачалі перабрукоўваць вуліцу. Работа ішла добра. Перабудавалі вуліцу, якая была ў адных вандолах і выбоях, што цяжка было пераехаць возам, а калі прыйшлося каму пераехаць самаходам, дык трымай зубы напагатове, калі хочаш, каб цэлыя былі. Але паявілася адна бяда. Прышоў час палявых летніх работ, і 60—70 метраў вуліцы асталіся нявыбрукаванымі да гэтай пары. Ані Грамадская рада ў Бабіках, ані жыхары Гаркавіч не падумалі дакончыць гэты кусочак бруку. А.С.

Сакольскі павет

## Тры булачкі

13 кастрычніка 1966 г. я зайшла ў гайнаўскую сталовую выпіць шклянку гарачай гарбаты. Каля лічыльнай машыны сядзела чарнявая панюся. Калі я папрасіла ў яе тры булачкі, яна мне не дала дакончыць і сказала «няма булачак». Ля столікаў сядзелі людзі, елі булачкі з маслам, каўбасой, а за буфетам стаялі карзіны з булачкамі. Я задумалася, чаму я не спадабалася гэтай панюсі? Можа таму, што ў мяне не капялюш на галаве, а хустка? А можа мае шурпатыя рукі ад капання бульбы ёй не падабаліся? Калі няма булачак, то дайце хлеба, каўбасы і гарбаты, — я ёй гавару. І дзіва, замест хлеба выпісала яна мне булачкі і сказала, што на вынас у іх булачак няма.

Гэта аднак трэба ўзяць пад развагу. А калі б не было булак у кіёсках, то няўжо нельга прадаць некалькі булак і на вынас. А можа хто і не мае грошай на каўбасу ці гарбату. Можа вясковая жанчына і сароміцца сесці з булачкай за столік, а яна яе з'есць па дарозе ці ў краме ў куточку. Ці ж не гэтыя чорныя рукі «выпрадукавалі» збожжа на гэтую булачку?!

**Валянціна Янцэвіч**
Скупава

## Корм

За цэнтнер збожжа паўцэнтнера кармавой мяшанкі. Вось на такім большменш прынцыпе наш вясковы гандаль прадае вельмі карысныя жывёліне кармавыя канцэнтраты, званыя, мяшанкамі. Гэтыя мяшанкі можна набыць таксама за грошы. Аб іх цэнах павінен ведаць і інфармаваць гаспадароў кожны прадаўшчык мясцовай крамы. (ся)




Дарагое Сэрцайка!

Парай мне, дзе знаходзіцца музычная школа. Падай адрас і напішы, якія ўмовы прыняцця, з якіх прадметаў экзамены і ці ёсць інтэрнат. За гэта буду табе моцна ўдзячны.

Яўгень з Беласточчыны

Адказваю: Калі ты хочаш паступіць у музычную школу, то павінен злажыць усе дакументы да мая наступнага года (напрыклад у сакавіку ці красавіку). У школу гэту прымаюць ад 7-мі да 30 год. Экзамен — баданне слыху і рытмікі. Інтэрната няма. Адрас школы: Беласток, вул. Сянкевіча 14.

«З'яўляюся вашай сталай чытачкай. Найбольш мяне цікавіць куток «Сардэчныя тайны». Маю 17 год. Прашу падаць мне адрас добраахвотнага гуфца працы і паінфармаваць, ці мяне могуць прыняць. За параду буду вельмі ўдзячна» — Яніна.

Адказваю: На жаль, дзяўчат не прыймаюць, а толькі хлопцаў.

«Маю 16 год. Скончыў 7 класаў пачатковай школы і 2 кл. сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Хацеў бы вучыцца далей у абслугоўванні цяжкага будаўлянага абсталявання. Дзе знаходзіцца гэтая школа, якія патрэбны ўмовы, каб паступіць. За параду вельмі дзякую», — Яўгень з Сакольшчыны.

Адказваю: Такая школа знаходзіцца ў Вроцлаве: Zakład Doskonalenia Zawodowego, Wrocław ul. Biskupia 10a.

Гэта 3-хмесячныя курсы. Аднак, каб там паступіць, трэба быць паўналетнім, працаваць у будаўніцтве. Тады данае прадпрыемства кіруе свайго працаўніка на гэтыя курсы. Працаўнік гэты мусіць мець права язды. Кіруе таксама войска. У тваім выпадку трэба яшчэ пару год пачакаць, мо тады ўдасца табе паступіць на гэтую школу.

Сэрцайка

...нак цяпер Гопф ведаў, што гэта толькі гульня. Праведзеныя гестапаўцамі па загаду Гопфа назіранні за гэтым чалавекам, кожны крок якога зараз занатоўваўся, пацвердзілі меркаванні оберштурмбанфюрэра. «Кора» быў капітанам вермахта, працаваў у камітэце стратэгічнай сыравіны, і яго прозвішча было Мюлер Бойд.

Праз два дні яго арыштавалі, але на следстве, якое вялося з дапамогай зверскіх метадаў і самых нечалавечых катаванняў, ён ні ў чым не прызнаўся. Перад невымоўнай варожасцю гэтага чалавека нават оберштурмфюрэр Гопф адчуў сваю абсалютную бяссільнасць.

— Так мы ніколі не скончым гэтай справы, — сказаў ён Модэлю. — Мы будзем толькі вылушчваць асобныя зярняты, але ніколі не схопім усёй шышкі.

*Працяг будзе*

# ЧЫТАЧЫ ПЫТАЮЦЬ -„НІВА” АДКАЗВАЕ

**Пытанне:** Ці можна патрабаваць, каб пасля разводу жонка не насіла прозвішча мужа?

**Адказ:** У выніку шлюбу жонка атрымоўвае прозвішча мужа, калі ў часе шлюбу не злажыла заяву, што хоча затрымаць сваё прозвішча. Развод не мае ўплыву на прозвішча жонкі. Самой жонцы прыслугоўвае права — на працягу трох месяцаў ад уваходу ў законную сілу рашэння суда аб разводзе — злажэння ў загсе заявы ў справе павароту да даўняга прозвішча. Нікому іншаму гэта права не прыслугоўвае.

## Дапамога старым

У Нараўкаўскай грамадзе ёсць 15 старых і адзінокіх людзей, якімі апякуецца Прэзідыум ГРН. Кожны месяц атрымоўваюць яны па 450 зл. Апрача таго часта прыдзяляецца ім харчы і адзежу. Такім чынам старасць іх акружана апекай мясцовай улады. (мх)

# ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер — у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (у злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 370 | 340 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 500 | 440 | 450 |
| яйкі | 1 шт. | 2,50 | 2,50 | 1,65 |
| масла | 1 кг | 60 | 55 | 53 |
| ялавічына | кг | 35 | 30 | 33 |
| свініна | кг | 39 | 37 | 33 |
| сала | кг | 34 | 34 | 35 |
| бульба | кг | 0,90 | 0,80 | 0,80 |
| цыбуля | кг | 5 | 5 | 4 |
| капуста | кг | 1 | 1,50 | 1 |
| морква | кг | 2,50 | 2 | 1,65 |
| буракі | кг | 2 | 2 | 2 |

# КІНО

**Праграма на 8—13.XI.1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„A jednak cię kocham” (radziecki), 8—9. „Egoistka” (radz.), 10—11. „Bajka o mrozie czarodzieju” (radz.), 12—13.

**Кляшчэлі**

„Dziewczęta” (radz.), 8 — 9. „Spacer po linie” (radz.), 10—11. „Kraksa” (radz.), 12—13.

**Дубіны**

„Kanciarze i spółka akcyjna” (angl.), „Dworek 4-ech dziewcząt” (węgierski), 12—13.

**Нарва**

„Mam 20 lat” (radz.), „Kiermasz” (NRF), 10—13.

**Нараўка**

„Dwie noce jednego dnia” (jugosłowiański), „Giuseppe w Warszawie” (polski), 10—13.

**Чыжы**

„Kto sieje wiatr” (USA), „Dwadzieścia godzin” (radz.), 10—13.

**Дубічы Царкоўныя**

„Gorąca linia” (polski), „Jojo” (franc.), 10—13.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Mam tu swój dom” (polski), „Artysta do wszystkiego” (radziecki), 10—13.

**Орля**

„Miłość jednej nocy” (radz.), „Dylemat” (duński), 10—13.

**Райск**

„Mam 20 lat” (radz.), „Kiermasz” (NRF), 10—13.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Bajka o mrozie czarodzieju” (radz.), „Wiernosć” (radz.), 10—13.

**Міхалова**

„Świadectwo dojrzałości” (radziecki”), 8—9. „Obcy ludzie” (radziecki), 10—11. „Uwaga! Czarny kot” (radz.), 12—13.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Operacja Y” (radz.), 8—9. „Pożegnanie” (polski), 10 — 11, „Zemsta OAS” (franc.), 12—13.

**Мілейчыцы**

„Uwaga! Czarny kot” (radz.), 8—9. „Ojcowizna” (radz.), 10—11. „Świadectwo dojrzałości” (radz.), 12—13.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Spotkanie z Warszawą” (polski), 8—9. „Baza ludzi umarłych” (polski), 10—11. „Fatalny list” (angl., 12—13.

**Шудзялава**

„Lęk” (czeski), „Elektra” (duński), 10—13.

**Сідра**

„Tytoń” (bułgarski), 8 — 9. „Hasło bez odzewu” (bułg.), 10—11. „Nikt śmiać się nie będzie” (czeski), 12—13.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Najdroższa” (radz.), „Okres próbny” (radz.), 12—13.

**Ліпск**

„Małpia kuracja” (USA), „Gdzie twoje miejsce” (czeski), 12—13.

НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch” Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch” Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona” Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP ,;Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.
Nakład 6863 Błtk D-1

